# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 37 (968) ГОД XIX БЕЛАСТОК 15 ВЕРАСНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.


Новая восень



Пахне яблыкамі
І каноплямі,
Рутай-мятаю
Жоўты сад.
Нібы пальцамі,
Часта кроплямі
Дожджык стукае
Неўпапад.
Мне ж так хочацца
Выйсці раніцай,
Дзе забытыя
Быльнягі,
Дзе калінавы куст,
Як паранены,
Дзе не знаў я
Калісь тугі.
Пахне яблыкамі,
Пахне грушамі,
Рутай-мятаю
Жоўты сад.
Сам не ведаю,
Чым я ўзрушаны,
Чаму вырвацца
Ў поле рад.

**Станіслаў Шушкевіч**

## ДОМ КУЛЬТУРЫ ЗАПРАШАЕ

Чыгуначныя прадпрыемствы ў Чаромсе супольна пабудавалі дом культуры ўжо ў 1962 годзе. Ёсць тут даволі вялікая кіназала, прыгожыя і добра абсталяваны іншыя памяшканні, а асабліва бібліятэка, якая мае шмат чытачоў сярод дарослых і школьнікаў.

Дом культуры з'яўляецца актыўным арганізатарам мастацкай самадзейнасці. Раней быў тут вакальны калектыў, які выязджаў з канцэртам нават у далейшыя мясцовасці, па-за Беласточчыну, аж у Прушкоў, Ловіч, Седльцы.

Быў тут таксама і тэатральны калектыў, які з п'есай „Крэдовэ коло" выступаў шмат разоў. Гуртавала моладзь і спартыўная каманда. Помняць гэтыя калектывы і часта ўспамінаюць іх чыгуначнікі, зрабілі ж яны шмат добрага, выхаваўча ўздзейнічалі на моладзь.

Цяпер пры доме культуры існуюць новыя калектывы: харавы, музычны і фатаграфічны. Кожны з іх мае свае дасягненні, мае чым пахваліцца.

Харавы калектыў, які складаецца выключна з моладзі да 20-ці год і працуе пад кіраўніцтвам Міхася Артышэвіча, прымаў таксама ўдзел у песенным конкурсе БГКТ у гэтым годзе.

**(Працяг на стар. 4)**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"





З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX-ГОДДЗЮ ПНР

ДУЭТ З НОВАЙ ВОЛІ

*У катэгорыі фальклорнай песні ў групе дуэтаў сёлетняга цэнтральнага песеннага агляду БГКТ другое месца занялі Сак Марыя і Доманъ Клаўдзія з Новай Волі Беластоцкага павету.*

*Фота А. Карпюка*

## Новая панарама Сямяціч



*У цэнтры Сямяціч выраслі новыя жыллёвыя будынкі.*

*Фота Я. Цялушэцкага*

## ГАСПАДАРАННЮ — ВЫШЭЙШАЯ ЯКАСЦЬ

Калі гаворым пра сельскагаспадарчыя гурткі, найчасцей думаем вельмі спрошчана: трактар, жняярка, малацілка. А тым часам нашы гурткі пераходзяць, або ўжо перайшлі на вышэйшую ступень дзейнасці. Толькі ў гэтым годзе на Беласточчыне жніво адбывалася на 5.320 гектарах зямлі, загаспадаранай гурткамі.

Даход сельгасгурткоў з прадукцыі і паслуг агульна павялічыўся на 77 працэнтаў. З гэтага каля 30 працэнтаў — у выніку павышэння цэн на гаручае. Але і так гэта высокі паказчык росту.

У мінулым годзе гурткі нашага ваяводства прадалі дзяржаве 400 тон мяса. Цяпер у жывёлагадоўчых цэнтрах знаходзіцца 6 тысяч кормнікаў, а на канец года іх колькасць павялічыцца яшчэ на 3 тысячы штук.

У будучым у гуртках будзе 1440 авечак-матак, паўстануць букацярні на 1200 месц (зараз іх усяго 104). Гэта ўсё ў рэалізацыі і напэўна будзе выканана. Але таварышы з ваяводскага праўлення гавораць, што іх намеры большыя.

У будучыні прадбачваецца некалькі канкрэтных напрамкаў дзейнасці, амаль ужо апрацаваных або з канкрэтна распрацаванымі прапановамі.

Паколькі выступаюць некаторыя інвестыцыйныя клопаты, прадбачваецца стварыць ваяводскую спулдзельню вясковага будаўніцтва, якая будзе мець сваіх спецыялістаў і патрэбнае абсталяванне. Як вядома, цяпер фактычна няма каму будаваць кароўнікаў ці хлявоў для цэнтраў сельгасгурткоў. Апрача таго, прадбачваецца павялічыць т.зв. моц будаўнічых брыгад у спулдзельнях сельгасгурткоў.

У наступнай пяцігодцы спулдзельні сельгасгурткоў нашага ваяводства атрымаюць 1,5 мільярда зл. інвестыцыйнага фонду. 700 мільёнаў прадбачваецца на жывёлагадоўчую прадукцыю і на загаспадаранне зямлі, а 760 мільёнаў зл. на тэхнічную базу для СКР.

Іншы напрамак дзейнасці — развіццё сельскагаспадарчай прадукцыі. У даны момант гурткі загаспадарваюць 11 тыс. гектараў зямлі, на канец 1975 года будуць мець 14,5 тыс. гектараў, а ў 1980 годзе колькасць гэтай зямлі павялічыцца на 15 тыс. гектараў, гэта абазначае, што сельгасгурткі будуць мець каля 30 тыс. гектараў зямлі. Жывёлагадоўчая прадукцыя будзе развівацца на базе ферм.

Многа палыну мусяць праглынуць работнікі сельгасгурткоў у галіне запчасцей для машын. У даны момант проста неабходна стварыць спецыялістычную фірму, якая б забяспечыла сельгасгурткі патрэбнымі прыладамі, абсталяваннем і запчасцямі. Такая фірма будзе ў ваяводстве, а ў кожным павеце будзе адна вядучая спулдзельня, якая забяспечыць адзінкі ў павеце. Дагэтуляшняя форма — забеспячэнне ў ПЗГС не адпавядае растучаму запатрабаванню.

Адной з найбольш занядбаных і неўралагічных галін дзейнасці з'яўляецца арганізацыя паслуг. Тут найбольш было скарг і крыўды. Фактычна кожны рабіў па-свойму і як хацеў. Не было ніякай мадэлі на гэта.

Зараз прапануецца адналітая ўзорная мадэль арганізацыі паслуг для гаспадароў. Першай справай гуртка, МБМ ці СКР будзе падпісанне ўмовы з гаспадаром, на якіх угоддзях і што трэба бу-

Працяг на стар. 4

 

# З МІНУЛАГА КРЫНАК
## і ваколіцы

Перада мною „Церковно-приходская Летопись Кринской Церкви с 1880 года“. Сшытку амаль сто гадоў. Налічвае ён 58 старонак, пажоўклых, крохкіх, абцёпканых. Тагачаснае царкоўнае начальства некалькі разоў звяртала ўвагу летапісцу на тое, што не павінен ён пісаць пра справы Крынак...

У першую сусветную вайну гэты летапіс, нейкім чынам, захоўваўся ва ўпраўленні дывізійнага абоза дзевятай Сібірскай стралковай дывізіі. У час бежанства, відаць.

Што новага можна даведацца аб Крынках з гэтага летапісу?

Даўным-даўно ехала гэтымі лясамі каралева Бона, расказвае легенда. Яе экіпаж заграз у балоце ля падножжа гары. Бона выйшла з экіпажа, узыйшла на гару і да таго ж захапілася хараством мясціны, што загадала будаваць тут горад і царкву. Так узніклі Крынкі.

Наўрад ці гэта сварлівая каралева мела час займацца царквамі... Зрэшты, з'явілася яна ў Польшчы і на Белай Русі каля трынаццаці гадоў пасля мяркуемага збудавання царквы ў Крынках (у 1505 годзе). А ўспамін аб самых Крынках адносіцца аж да 1393 года! На такую лірычную легенду, відавочна, заслужыла Бона выдатнай сельскагаспадарчай рэформай, афармленай ў вядомай „Уставе на валокі“... Яна навучыла трохполлю.

У 1529 годзе Крынкі з Адэльскам уплацілі пятнаццаць коп грошай на ўтрыманне каралеўскіх войскаў.

Герб атрымалі Крынкі яшчэ ў 1509 годзе, ад караля Зыгмунта Старога. Увесь час сялілася ў іх шмат літоўцаў. У нашы дні засталіся па колішніх літоўцах такія значныя роды з неславянскім назовам, як Кішкелі, Скроўбы, Дзядэлі, Карвелі, Войшалі, Шыгаловічы і інш.

У другой палове XVIII стагоддзя Крынкі перабудаваў гродзенскі стараста Тызенгаўз, прыдаючы ім сённяшнюю форму. А дзе знаходзіліся старыя Крынкі, іхняе Старое Места? Улічыўшы размяшчэнне старадаўніх будынкаў, крынкаўскае Старое Места, відаць, знаходзілася не на самым узвышшы, але на ягоным усходне-паўднёвым схіле, у дузе рэчкі Крынкі, паміж вуліцамі Гміннай, Горнай і Надрэчнай. Аб такой здагадцы сведчыць наступны факт: у 1775 годзе пабывалі ў Крынках каралеўскія камісары, у сувязі з нядаўнім пажарам, у час якога згарэў і дом святара царквы Івана Асахоўскага, што стаяў на месцы цяперашняга рынку, у агародах! Камісары, па прычыне планаванай перабудовы Крынак, прызначылі святару новую сялібу і далі яму надзел агародаў у новым месцы, а менавіта ад мяжы гарадскіх агародаў Свіслацкай вуліцы (цяпер Гарбарскай) да гарадскога выгана з альшынаю, і ад мешчаніна Ельяшэвіча, званага Коткам, да завулка, які пачынаецца са Свіслацкай вуліцы і, побач царквы, выходзіць на той жа выган, у ваколіцы новай вапнавай прамысловасці... Сёння там Кішкелі, Шыгаловічы, Кіселі, гарбарня Піцэвіча, Гмінная вуліца, дом Пяткевіча і інш.

Пасля разбору Рэчыпаспалітай Крынкі апынуліся ў Расійскай Імперыі, а прыгарадныя Піражкі і Астравок з Вostравам знайшліся ў Прусіі. Граніца праходзіла лугам і паўз палеткаў сённяшніх хутароў Гаспора і Шумінскага, у напрамку на Азерскія ды Грыбоў-

(Працяг на стар. 4)

# Запаланіў яго свет мастацтва







Міхась Баканач — ураджэнец Новага Ляўкова Гайнаўскага павету. Яшчэ ў пачатковай школе праяўляў ён здольнасці ў напрамку жывапісу. Пасля заканчэння прафесіянальнай школы, пачаў ён працаваць на керамічнай фабрыцы ў Ляўкове і ўвесь вольны час пасля працы прысвячаць жывапісу, разьбе па дрэве, а таксама сабе толькі вядомым канструктарскім планам і іх ажыццяўленню. Асабліва апошнім часам малады чалавек пачаў аддаваць перавагу разьбе па дрэве. Патрэбныя для гэтага пароды дрэў знаходзіць ён у вялікай, поўнасцю механізаванай бацькам сталярні. Тут мае ўсе неабходныя для разьбы прылады. Найперш пачаў ён разьбіць фігуры белавежскіх зуброў, а затым твары сялян і сялянак, шматасабовыя групы людзей, зграбныя постаці танцаўшчыц... І так Міхась Баканач вольныя хвіліны аддае драўляным фігуркам, робіць усё новыя, больш цікавыя і больш арыгінальныя. Рэзьбіць іх, аддаючы гэтаму майстэрству ўсё сэрца, матэрыялізуючы свае невыяўленыя дагэтуль мастацкія магчымасці, сваю невычэрпную фантазію. Яго душу ўсяцэла заваражыў свет мастацтва. Насіў ён яго ў багатым свеце сваіх думак і планаў. Спачатку вясковаму мастакусамавуку было боязна, што вынашаныя першыя задумы не атрымаюцца гэтак, як бачыў іх, здавалася, некалі ў сне.

Першыя спробы дадалі аднак ахвоты. Замілаванне да мастацтва ператварылася ў неабходнасць ствараць.

Міхась Баканач неўзабаве пачне будаваць мураваны дом, у якім асобнае месца, на верхнім паверсе будзе адведзена на мастацкую майстэрню.

Лічым, што пры нагодзе варта напомніць аб яшчэ адным факце з жыцця юнага вясковага мастака-разьбяра. Будзе ён найлепш сведчыць аб тым, што калі малады канструктар-самавук нешта задумае, дык усё будзе яму пад сілу. Як вядома, вёска Ляўкова знаходзіцца непадалёку ад ракі Нараўка і крыху далей ад ракі Нараў. Міхась задумаў пабудаваць дзве зручныя байдаркі. Задумаў і змайстраваў. Хаця прыйшлося шукаць найбольш адпаведнае для гэтага дрэва, палатно, алейную фарбу. Байдаркі атрымаліся на дзіва лёгкія і больш бяспечныя на вадзе, чымсьці тыя, якія бачым у магазінах са спартыўным абсталяваннем. Вось што значыць мецъ залатыя рукі і крыху фантазіі! Цікава дзе, ды ці ўвогуле ёсць межы так званым залатым рукам і замыслам юных фантазёраў, да якіх, між іншым, належыць і ляўкоўскі сціплы мастак-самавук? Мо пакуль найлепш пачакаць. Пакінуць гэтае пытанне нявысветленым. Мабыць, час пакажа.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**




# ГАПКА ЗБІРАЕЦЦА НА БАЛЬ

Не паехала Гапка на цэнтральныя дажынкі, не змясцілася ў „пулю“. Таму і бзыкае на кожнае станоўчае слова аб Познані. Ранейшая імклівасць познанскага готыку спала цяпер да пігмеевых памераў, а руплівасць (яшчэ некалькі тыдняў таму назад) познанцаў раптам пачала прагрэсіраваць у абломаўскую каламуць.

Ужо Гапка даходзіла да вываду, што вяршыняй гарадоў з'яўляецца Беласток, але ўспомніла, што год таму назад, калі цэнтральную перапёлку спраўлялі ў Беластоку, таксама не трапіла на стадыён „Гвардыі“ (цераз тую ж „пулю“). Ды і стадыён гэты!..

Памятаеце, як Гапка перла на яго на каскадэраў? Гэты парыў закончыўся хрусткім фіналам пад коламі беластоцкага аўтамабіля... Не, гэта вялікая дзярэўня! Самая ж „ГБ“ пісала, што ў Гарадскім ўпраўленні ў Беластоку зарэгістравана 4,5 тысяч сялян (з 8940 гектарамі ўгоддзяў!).

Ад поўнага духовага падзення збавіла Гапку новая інфармацыя „Нівы“ аб першым у трыццацігоддзі з'ездзе выпускнікоў беларускага ліцэя ў Бельску.

З уласцівай сабе энергіяй пачала Гапка рыхтавацца да гэтай падзеі. Найсамперш пашыла балёвую сукенку (ужо што-што, а баль дык там будзе!), потым здабыла польска-беларускі (пераацэнены) слоўнік і пачала зглыбляць беларускую літаратурную мову. Не гонар жа ў беларускім прыстанішчы хібы ў ведах па роднай мове тлумачыць цяжкім дзяцінствам (вучыцца ніколі не позна!).

Гапка пачала вынатоўваць са слоўніка ўсё, што можа спатрэбіцца ў таварыскай гутарцы. Вось яе нататнік:

„Адкуль ты? Ды адтуль, адкуль і ты. Непітушча. Вось дык фрукт (to ci ananas). Пагода не спрыяе. Яшчэ саб'емся з дарогі. Дарагі друг, у ціхім балоце чэрці водзяцца. З гэтага нічога не будзе. Цацанка-абяцанка, а дурню радасць. Пры ўсім жаданні, не магу. Не маю ахвоты. Ці маеце аб гэтым паняцце? — Сёе-тое. Ну, ведаеце!“

На гэтым Гапка спыніла нататкі. Не адолеўшы нават да канца трэцяй па чарзе літары слоўнікавага (кішэнных памераў) запасу, яна змарылася самаадукацыяй. Успомніўшы моўныя запасы некаторых нашых (куды вышэй пастаўленых) дзеячоў, Гапка не стала больш марочыць галаву будучай канверсацыйнай мітрэнгай, а поўнасцю пусціла ўзбуджаныя думкі на хвалю ўяўлення (не адным хлебам чалавек жыве):

І як гэта мы раней не сустрэліся? Дык за знаёмства!... Абажаю непітушчых... Выйдзем, коціку, у садок... Пагода цудоўная... Не бойся, я добры, ціхі... Каб дабіцца тваёй ласкі, анёлку, я гатоў у вельзевула пераўтварыцца... Аддам табе ўсю сатанінскую сілу... Казачная мая, не супраціўляйся... Навошта стрымліваць акіян страсці?.. Накіруем стыхію ў русла знойдзенага шчасця... Неспакойная рэчка (пасля акіяна!), усё роўна знайду дарогу на той бераг!.. Пракладу кладку да твайго сэрца...

Стоп. Спынім гэтае нездаровае адхіленне. Гапка (хай мне язык прысохне) і гэтым разам не змесціцца ў „пулю“. Яе ж кантакт з ліцэем, бы спакуслівая сустрэча з сябрам маладосці, трапешча на кволай нітцы ўяўлення. А гэтага, відаць, мала, каб трапіць на баль трыццацігоддзя.

Вось адбрыкаецца!

ДЗЗ

# Кожнаму свой куток мілы

БЕЛЬСКІ БЕЛАРУСКІ ЛІЦЭЙ

# ДАРОГАЙ НАВУКІ

У канцы жніўня вярнулася сонца, і школьная дзетвара цешылася канікуламі. А дырэктара Аляксея Карпюка мы засталі ў такі час у яго кабінеце ў беларускім ліцэі ў Бельску. Спыталі пра найбольш актуальныя справы школы. Менавіта (першае): як з паступленнем сёлетніх выпускнікоў ліцэя ў вышэйшыя школы і (другое): як з прыёмам у ліцэй выпускнікоў пачатковых школ.

Дырэктар Карпюк адказаў: „Адзін дырэктар хваліўся ў тэлевізіі, што ў яго 50 прац. выпускнікоў прыступіла да экзаменаў у вышэйшыя школы. З беларускага ліцэя ў Бельску да такіх экзаменаў прыступіла 70 прац. усіх выпускнікоў. 70 прац. з іх былі прыняты ўжо, а некаторыя будуць прыняты ўвосень пры дадатковым прыёме ў вышэйшыя школы“.

Куды паступілі сёлетнія выпускнікі беларускага ліцэя ў Бельску (некаторыя прыклады): Медыцынская акадэмія — 3 ў Беластоку, 1 — у Любліне, руская філалогія ў Быдгаскай ВСН — 3 асобы і ў Слупску — 1 асоба, Сельскагаспадарчая акадэмія ў Ольштыне — 3 асобы, ВСІ ў Беластоку — 3 асобы, Вроцлаўскі універсітэт (геалогія) — 1 асоба (на адно месца тут было 12 кандыдатаў, а кандыдат з беларускага ліцэя прайшоў без цяжкасці), Люблінскі універсітэт (права) — 1 асоба, СГПіС у Варшаве — 2 асобы, АВФ у Варшаве — 1 асоба, ВСН у Ольштыне (фізіка) — 1 асоба, Варшаўскі універсітэт — беларуская філалогія — 10 асоб. На беларускую філалогію паступілі ўсе дзяўчаты, усе былі добрымі вучаніцамі, а некаторыя, як Аліна Высоцкая з Вілянова і Ніна Томчук з-пад Бельска належалі да вярхушкі найлепшых. Сярод дзесяткі будучых беларускіх філолагаў ёсць Данута Нявінская — полька.

Некалькі асоб — найлепшых з найлепшых школа накіравала на далейшую навуку без экзаменаў.

Найлепшай вучаніцай выпуску 1973/74 была Таіса Філіманюк з Рыбалаў. Усе пяцёркі, але асабліва здольная ў галіне матэматыкі і фізікі. Была без экзаменаў прынята ў Варшаўскую палітэхніку. Дырэктар з задавальненнем паінфармаваў нас, што ў гэтым годзе ў першы клас беларускага ліцэя быў прыняты брат Таісы.

Лявона Іванюка з Плёскаў, таксама выдатнага матэматыка і фізіка, школа накіравала на навуку ў Савецкі Саюз. Без экзаменаў прынялі Валю Баруту на хімію ў Беластоцкім філіяле Варшаўскага універсітэта, а Люцыну Янушкевіч на матэматычнае аддзяленне ў Варшаўскім універсітэце.

Гэтак выглядае справа з выпускнікамі ліцэя. Трэба сказаць, што як па ўзроўню матуральных экзаменаў, так і па паступленню ў вышэйшыя школы Бельскі беларускі ліцэй заняў у гэтым годзе адну з перадавых пазіцый ў ваяводстве.

А што чуваць у першых класах ліцэя? Адразу варта сказаць, што ўпершыню ёсць чатыры першыя класы — 125 асоб. З іх 99 былі прыняты без троек, а 13 было толькі з адной тройкай. Ёсць вучні таксама з Гайнаўскага і Сямяціцкага паветаў. Найбольш вучняў далі школы: Бельск — 32, Клейнікі — 7, Нурэц — 7 (школа гэтая дала сваіх найлепшых вучняў — выдатнікаў), Орля — 9, Рыбалы, Кнарыды, Малінікі, Пашкоўшчына, Храбалы, Пасынкі, Зубава. Большасць вучняў, якія былі прыняты ў ліцэй, былі найлепшымі вучнямі ў сваіх пачатковых школах.

Усім — і тым, хто прыйшоў у ліцэй, і тым, хто з яго выйшаў, усім педагогам жадаем добрых вятроў у іх парусы на хвалях жыцця ў новым навучальным годзе.

(вл)



 

 




# Нашаніўская пара

**МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XVII**

**Пейзажная лірыка.** Сёння разгледзім апошнюю групу прыродаапісальных вершаў Багдановіча, вершы, якія ілюструюць розныя поры года. Да гэтай групы належаць „Па-над белым пухам вішняў“, „Перад паводкай“, „Плакала лета, зямлю пакідаючы“, „Зімовая дарога“, „Зімой“.

Першы з гэтых вершаў прысвечаны вясне. Праўда, паэт у тэксце верша ні разу не ўжывае слова вясна, аднак вядома, што вішні цвітуць толькі вясной. У адрозненне ад другіх прыродаапісальных вершаў Багдановіча ў гэтым дамінуюць не зрокавыя, а слухавыя элементы. Толькі першая страфа верша заключае ў сабе інфармацыю аб каларыстычных уласцівасцях прадметаў: „белы пух“, „сіні аганёк“, „сінякрылы матылёк“. Усе іншыя адносяцца да свету гукаў. Такі характар верша выясняе, зрэшты, эпіграф, які ўзяў Багдановіч у Верлена — „Музыка перш за ўсё“. Зразумела, што ідзе тут гутарка аб музыцы, з якой складаецца свет гукаў прыроды. Дзівосная гэта музыка — не заўсёды рэальная. Цяжка паверыць паэту, калі гаворыць ён, што матыль „звоніць крыламі“. Незалежна ад дасканаласці чалавечага слуху нельга пачуць звону крылаў матыля. Дык чым жа растлумачыць такую недакладнасць у вершы паэта? Перш за ўсё імпрэсіяністычным уздзеяннем. Імпрэсіяністы апісвалі не тое, што бачылі, але тое, што адчувалі, што ім здавалася. Па-другое, Багдановіч быў схільны прыпісваць паэту надзвычайныя, ірацыянальныя ўласцівасці ва ўспрыняцці прыроды. У вершы „Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог“, які мы ўжо характарызавалі, паэт пісаў, што чуе „у цішы, як расце трава“. Гэтую ж выключную ўражлівасць паэта на музыку прыроды падкрэслівае Багдановіч і ў апошніх радках верша „Па-над белым пухам вішняў“. Другі верш аб вясне называецца „Перад паводкай“. Гэта адзіны твор з прыродаапісальнай лірыкі Багдановіча, у якім выступае канкрэтны беларускі прыродны элемент — рака Нёман. Верш напісаны папраўна, але ўпрошчана. Хутчэй можна было б яго залічыць да школьных паэтычных спроб, чым да спелых вынікаў Багдановіча-паэта. Верш пазбаўлены арыгінальнай метафорыкі і так характэрных для Багдановіча падтэкстаў. Трэці верш групы — „Плакала лета, зямлю пакідаючы“ — гэта рэфлексійны, тыпова Багдановічаўскі твор. Верш пабудаваны на цікавых асацыяцыях. Паэту здаецца, што асеннія кветкі вырастаюць з кропель дажджу, якія падаюць на зямлю.

Плакала лета, зямлю пакідаючы;
Ціха ліліся слязінкі на поле.
Але прыгожаю восеннюю яснаю
Там, дзе упалі яны, выраслі
Кветкі асення, кветкі ўспаённыя
Тугаю, горам, слязінкамі лета.
Кветкі асення, родныя, бледныя!
Выраслі вы, каб ураз-жа і згінуць.
Можа таму-то душа надарваная
Гэтак любоўна вянок з вас сплятае.

Любоў да слабага, прывязанасць да адзінокага — гэта праяў высакароднасці чалавека. Гэта якраз і ёсць у вышэй прыведзеным вершы. Варта адзначыць, што ў рытмічным сэнсе верш гэты нагадвае крыху верш Некрасава „Плакала Маша, как лес вырубали“.

Два апошнія вершы прыродаапісальнага цыкла „Зімовая дарога“ і „Зімой“, як ужо гаворацца аб гэтым загалоўкі, прысвечаны зіме. Асабліва верш „Зімой“ цікавы і прыгожы. У вершы гэтым няма арыгінальных паэтычных параўнанняў ні філасофскіх падтэкстаў. Прыгажосць яго заключаецца ў прастаце, унутранай яснасці, хрэстаматыйнай камунікатыўнасці.

І так мы закончылі разважанні аб пейзажнай лірыцы Багдановіча. Хочацца падкрэсліць, што займае яна істотную пазіцыю ў творчасці паэта. У сваіх пейзажных творах Багдановіч акрэсліў свае адносіны да прыроды, да атмасферных з'яў, да сутачных і гадавых перамен, да света гукаў і колераў. Нярэдка Багдановіч выкарыстоўваў прыродныя элементы, узнімаючы глыбокія асабістыя або грамадскія справы. Так ці інакш, у прыродаапісальных вершах, як і ва ўсёй сваёй паэзіі, умеў Багдановіч знайсці новыя словы для старых з'яў.



*Ратуша ў Канстанцы.*

# Водпуск у Румыніі

(Працяг са стар. 2)

яны там дзе трэба і ашчадна ў адрозненне ад нас, дзе дарожных знакаў часта не шануюць.

Праезджаму кідаюцца ў вочы шматлікія прыпынкі ля шашы. Тут ёсць лавачкі, дзе падарожнікі могуць адпачыць, а нават столік, дзе можна перакусіць. Амаль на кожным такім прыпынку калодзежы з вядром і квартачкай. І калі мы на дарозе ў Румыніі, то сустракаем вельмі часта т. зв. каналы, на якія вадзіцелі ўязджаюць машынамі, аглядаюць, што там пад нізам, рамантуюць, змяняюць масла. Гэта тое, чаго вельмі не хапае нам у Польшчы.

На пяцісоткіламетровым шляху з Сірэту ў Мамаю сустракаем палі. На палях розныя культуры, пачынаючы ад бульбы і пшаніцы, па велізарныя абшары сланечнікаў, кукурузы, памідораў, вінаграднікаў ды персікавых садоў. У час праезду (пачатак жніўня) збожжавыя культуры тут былі ўжо сабраны; месцам пачыналі капаць бульбу. Румыны дбаюць пра зямлю і ўраджаі, на палях чыста, відаць тут рука гаспадара, а каб зямлі хапала вады, тут вельмі распаўсюджана форма навадненне штучным дажджом. І яшчэ адно. Па дарозе сустракаюцца меншыя гарады і пасёлкі. Яны вельмі чыстыя, а хатамі, спецыфічна, па-народнаму пабудаванымі і памаляванымі рознымі колерамі, можна любавацца без канца. У кожнай большай мясціне царква; Румынія ў далёкім мінулым прыняла праваслаўную веру.

Пра румынскае пабярэжжа можна расказваць без канца. Я хачу толькі сказаць, што гэта ваколіца сучасных курортных цэнтраў (Мамая, Эфорыя, Касцінешці, Нептун, Юпіцер, Венус, Сатурн, Мангалія) і помнікаў старажытнай грэка-рымскай цывілізацыі (Канстанца, Томіс, Гістрыя, Мангалія, Каляціс). Гэта чароўны дыялаг блакіту неба і мора, гэта рознаколерная паэзія пляжных парасонаў, турыстычных палатак і гасцініц. Гэта магчымасць лячэння балотамі ў Эфорыі, а таксама адмалоджваючых працэдур у Эфорыі і Нептуне...

Калі я вяртаўся дамоў, Румынія рыхтавалася да свайго нацыянальнага свята — 30-годдзя вызвалення.

**А. Карпюк**

*Фота аўтара*



*У чарзе да гранічнага пункта.*

Пачатак на стар. 1

# Гаспадаранню — вышэйшая якасць

дзе рабіць машынамі. Потым усе гэтыя ўмовы будуць збалансаваны з тэхнічнымі магчымасцямі. Разам з сельскагаспадарчай службай будзе ўстаноўлен аптымальны тэхнічны тэрмін для данага раёна, г.зн., калі можна касіць травы, жаць збожжа, апырскваць і г.д. Пасля гэтага на 2—3 дні перад выкананнем работы трэба будзе паведаміць гаспадару і тады з брыгадамі прыступіць да працы. Можна ўжо цяпер прадбачваць, што так справа можа быць вырашана пры жніве, сенакосах, але пры іншых паслугах гэта не будзе магчымым і там трэба знайсці іншы метад.

І, нарэшце, як напрамак дзейнасці — сацыяльныя справы. Прадбачваецца пабудаваць у Дайлідах вучэбны цэнтр на 50—60 чалавек. Паколькі вельмі мала людзей з вёскі карыстаецца санаторыямі, а патрэбы ў гэтай галіне вялікія, падпісан дагавор з аб'яднаннем ПГР на будову ў Аўгустове ў будучай пяцігодцы санаторыя на 95 месц, з якога летам будуць карыстацца толькі работнікі сельскай гаспадаркі, а ў іншых сезонах 50 працэнтамі будзе карыстацца дырэкцыя курорта, а 50 працэнтаў — для КР і ПГР.

Прадбачваецца пабудаваць добрыя майстэрні з „чыстымі“ і „бруднымі“ гардэробамі, кватэры для работнікаў, сталовыя. Адным словам, стварыць такія ўмовы, каб рабочы, добра працуючы спецыяліст адчуваў смак добрай работы і жыцця.

**А. Карпюк**

Пачатак на стар. 1

# Дом культуры запрашае

Адной з цікавых форм працы чаромхаўскага дома культуры чыгуначнікаў з'яўляюцца лекцыі, сустрэчы з цікавымі людзьмі, на якія прыходзіць многа мясцовых жыхароў. Адной з такіх сустрэч быў аўтарскі вечар Алеся Барскага, які сваім уступным словам, вершамі і адказамі на пытанні захапіў прысутных.

У гэтым доме культуры вядуцца таксама лекцыі „Паўшэхнага універсітэта“ для бацькоў, што арганізаваны супольна з мясцовай школай. А што датычыць дзяржаўных свят і гадавін, ды свят чыгуначнікаў, дык дом культуры спецыяльна да іх рыхтуецца і адзначае.

У апошні час у Чаромсе многа гаворыцца аб тым, каб дом культуры чыгуначнікаў стаў гмінным домам культуры, каб уздзейнічаў на ўвесь свой мікрараён.

З гэтымі заданнямі ён напэўна справіцца. Яго кіраўнік тав. Гацкевіч умее „рабіць культуру“.

**М. Хмялеўскі**

(Працяг са стар. 3)

# З мінулага Крынак і ваколіцы

шчыну. Праз граніцу, зараснікамі, уцякалі ў Астравок маладыя крынкаўцы, якім пагражаў набор у салдаты царскага войска, на 25-гадовую службу ў занебакраі. У 1797 годзе Літоўска-Гродзенская Казённая Палата перадала вёсцы Азяраны Вялікія восем валок зямлі, якія страцілі Піражкі, апынуўшыся за прускай мяжой. Але азяранскай зямлі адыйшло да Прусаў аж 18 валок, таму неўзабаве дадалі Азяранам Вялікім яшчэ сем валок і 26 маргоў, відаць, у ваколіцы цяперашніх Азерскіх, якія ўзніклі праўдападобна ў выніку перасялення туды некалькіх азяранскіх гаспадароў (Семянякаў?).

Крынкі сталі ўласнасцю рускіх вяльможаў сенатара Дзівава і обер-сакратара Сакалова, які валодаў часткай мястэчка ад маёнтку Вірыяна. Уласнасцю Дзівава на дзень 10 жніўня 1797 года было 312 крынкаўцаў і 263 крынчанак. Сакалову належыла значна менш, 97 мужчын і 95 жанчын. Разам 767 душ, а з людзьмі вольнымі Крынкі налічвалі ў той час, пэўна, звыш тысячы жыхароў. Дзвесце гадоў таму назад.

У 1804 годзе згарэла царква і даўнія дакументы, якія знаходзіліся на захаванні ў ёй. З выратаваных ад агню яе рэштак, дадаўшы новага матэрыялу, пабудавалі царкоўку накшталт сялянскай хаты, з саламяным дахам. Пасля напалеонаўскіх войнаў сенатар Дзіваў пачаў будаваць мураваную царкву паблізу таго месца, дзе нібы загразла каралева Бона. Недзе на ўскраі цяперашняга Гродзенскага выгана. Тады было там мокра, сцены аселі ды палопалі. Дзіваў махнуў на ўсё рукою. Але нарадзілася новая легенда — аб царкве, што запалася пад зямлю... Сучасная царква была адчынена восьмага верасня 1868 года, белакаменная. Іканастас аздабляў селянін Восіп Дамброўскі.

Меркавалася, што драўляная капліца на могілках налічвае звыш двухсот гадоў. Аказалася, пабудавалі яе ў гадах 1872-74.

Да 1863 года існавала ў Крынках школа, якую ўтрымоўвалі памешчыкі. Закончыла гэтую школу 206 хлопчыкаў і 33 дзяўчынкі (дзесяць працэнтаў крынкаўчан і жыхароў навакольных вёсак умела чытаць). Пасля Студзеньскага паўстання прыхадскую школу пераўтварылі ў народную, а настаўнікам у ёй прызначылі... святара Рыгора Пранеўскага, чалавека, які з незвычайнай энергіяй клапаціўся аб царкоўнай эканоміі. Ці развівалася далей школа — летапісец маўчыць.

Воласць была ўтворана ў Крынках у 1861 годзе і ахоплівала яна тэрыторыю па Нетупу, Саннікі і Белагорцы. У крынкаўскай ратушы захоўваліся справы (дакументы) ад XVI стагоддзя, якія загінулі ў час сусветных войнаў, разам з ратушай.

Летапісец з асаблівай увагай спыняецца на 1880 годзе, калі пачынаў ствараць сваю хроніку, год за годам. Не ўпамінае ён пра гарбарні (магчыма, яшчэ не было іх) але досыць падрабязна паведамляе пра чатыры вадзяныя млыны на Крынцы, фабрыку вапны, вадзяную фабрыку сукна і кортаў ва ўрочышчы Нетупа і пра цагельню ды фабрыку вапны паблізу таго ўрочышча. Паштовая станцыя ў Крынках з'яўлялася аддзелам сакольскай паштовай канторы, і пісьмы высылалі і дастаўлялі толькі два разы ў тыдзень: у панядзелак і пятніцу. Кірмашы, каралём устаноўленыя 22 лістапада 1569 года, адбываліся на Сёмуху, Ганну, Ва-



 

НА САКОЛЬШЧЫНЕ

# Адкліканні

У мінулым годзе да Павятовага ўпраўлення ў Саколцы было накіравана 155 адклікванняў ад рашэнняў і пастаноў органаў мясцовых улад. Сведчыла гэта аб малым вопыце прадстаўнікоў мясцовых улад, г. зн. перш за ўсё работнікаў гмінных упраўленняў, аб недастатковым кантролі іх пастаноў начальнікамі гмін.

Адклікані датычылі перш за ўсё вясковага будаўніцтва, падаткаў, нетэрміновага ўладжвання або павярхоўнага разгледжання тых ці іншых спраў. Здараліся выпадкі, што адказныя работнікі таго ці іншага аддзялення гміннага ўпраўлення інтэрпрэтавалі абавязваючыя пастановы на некарысць грамадзян.

За шэсць месяцаў гэтага года было каля дваццаці адклікванняў жыхароў вёсак і пасёлкаў. Пісалі яны амаль у кожнае аддзяленне павятовага ўпраўлення. Адмяняць рашэнні, прынятыя работнікамі гмінных упраўленняў, прыйшлося толькі ў некаторых выпадках. У асноўным амаль усе былі трапна акрэслены. Заўважыць можна было, што прынятыя пастановы былі падрабязна выяснены работнікамі гмінных упраўленняў. Пастановы падаваліся да ведама зацікаўленых у прынятых тэрмінах. Значыць, гмінныя ўпраўленні, найніжэйшыя органы ўлады, пачынаюць дзейнічаць штораз лепш. Сведчыць аб гэтым непараўнальна меншая колькасць адклікванняў. Праўда, ёсць і выпадкі прагалін у гэтай справе. Вось адна з рэферэнтак па фінансавых справах у гміне Сідра два разы выдала няслушныя пастановы, якія не абышліся без адклікання ў вышэйшую інстанцыю, у тым выпадку ў фінансавае аддзяленне павятовага ўпраўлення. Няслушна прынятыя рашэнні былі грунтоўна абмеркаваны, а рэферэнтка атрымала адзін раз (першы) напамін і за другім разам — вымову з папярэджаннем. Вядома, для ўсіх нас важнай з'яўляецца правільная і паспяховая праца ўсіх органаў адміністрацыі. Хацелася б, каб мясцовыя органы адміністрацыйных улад рабілі поўнасцю абгрунтаваныя пастановы. Не было б тады непатрэбных адклікванняў. Але цешыць тое, што маем іх усё менш, і жыхары Сакольскага павету адклікаюцца да вышэйшых улад, добра прадумаўшы справу, а не, як бывала, а нават і цяпер часамі здараецца, адклікаюцца так сабе, без рацыі. (ця)

## Не ўцякаюць з вёскі

Новая сельскагаспадарчая палітыка стварыла спрыяльныя ўмовы для развіцця сельскай гаспадаркі. Можна цяпер добра і заможна жыць на вёсцы, лепш яшчэ, чым у горадзе. Зразумела, трэба толькі ўмець працаваць.

У вёсцы Паўднёвы Востраў, што на Сакольшчыне, на пальцах адной рукі можна палічыць тыя гаспадаркі, на якіх працуюць старыя людзі. Там усе гаспадары ў сіле веку, там гаспадарыць таксама шмат моладзі. Нават солтыс Яўген Жамойда — адзін з маладзейшых гаспадароў вёскі. Старым гаспадарам Паўднёвага Вострава на дапамогу прыязджаюць сыны і дочкі (у асноўным з Беластока), і гаспадаркі гэтыя таксама добра функцыянуюць і не маюць даўгоў перад дзяржавай. (мх)

## ФАЛЬКЛОР

ХРЫСЦІННАЯ

Гу-ля-ла б ду-ша — бо-ю-се му-жа. Муж мэ-нэ на-
б'е — нэ бу-ду ду-жа.

*Гуляла б душа — боюсе мужа,*
*Муж мэнэ наб'е — нэ буду дужа.*
*Муж мэнэ наб'е — нэ буду дужа.*
*Муж мэнэ наб'е саломінкою,*
*Погодімосе пуод пэрынкою.*
*Погодімосе пуод пэрынкою.*
*Пуод пэрыною — з Катэрыною,*
*А пуод радэнъцём — з мілым сэрдэнъцём.*
*А пуод радэнъцём — з мілым сэрдэнъцём!*

Ад Анны Стахвіюк, 50 год, вёска Трасцянка Гайнаўскага павету, запісаў 21 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

ТАК БЫВАЕ...

## На сконе жыцця

На старым могільніку ападала лісцё. Яно ўсцілала бронзаю магілы. Хіліліся долу крыжы. З апусцелых палёў налятаў халодны вецер. Ён нёс з сабою цэлыя гурбы лісця. Прыкрываў імі залацісты ў сонцы пясок ля аднае свежае магілы з надпісам на крыжы: „Ганна В. жыла 87 год“.

*

Ганна яшчэ ў вайну асталася без мужа. Загінуў ён у апошні месяц вайны, калі войскі здабывалі Берлін. Неўзабаве памёр яе меншы сын Аляксей. Найстарэйшы сын Раман быў для маці адзінай радасцю і надзеяй. Ганна вельмі ім даражыла. Ён быў добрым сынам. Добра вучыўся. Калі вучыўся, часта прыязджаў да маці на вёску. Адмяніўся тады, калі стаў інжынерам, а пасля ажаніўся. Дома быў рэдкім госцем. Не ведае Ганна, навошта ён падгаварыў яе пакінуць гаспадарку і паехаць жыць да яго ў горад. Спачатку ўсё было добра. Але калі нарадзілася ўнучка, Раман задумаў пасяліць маці ў доме старых. Ягоная гарадская кватэра была невялікая, і для маці не знайшлося месца. Сын з жонкаю аднак пацяшалі, што часта-часта будуць яе наведваць, забіраць да сябе на нядзелю і шмат чаго іншага.

...І вось старэнькая жанчына доўгадоўга стаіць ля адкрытага акна на паверсе дома старых. Глядзіць-углядаецца на дарогу сваімі малавідушчымі вачыма. Чакае прыходу роднага сына. Так, як абяцаў. Не было яго столькі месяцаў. Адплыло ўжо ў дарогу лета. Настала восень. Сын вось-вось павінен прыйсці. Абавязкова.

У пенсіянеркі Фані была дачка з унукам. Яна таксама доўга чакала. Дачакаюся і я. Вядома, цяпер у яго свая сям'я, свой клопат. Але калі прыедзе з жонкай і ўнучкай, усе будуць зайздросціць. А яна прытуліць да сябе ўнучку, так моцна-моцна...

Занемагла я. Мабыць хутка мне ў апошнюю дарогу. Хаця б паглядзець унучку. Хоць у апошні раз. Так я занемагла. Каб сын здагадаўся і сёння яшчэ прыехаў. Якой была б я шчаслівай. І ці то з радасці, ці можа з-за трывогі і непакою ў бабулі па твары пакаціліся слёзы...

...Дарэмна чакала Ганна сына. Дарэмна спадзявалася ўбачыць унучку. Душою прадчувала. Няўмольная смерць прыйшла яшчэ ў тую ноч. Раніцою ўзыйшло спозненае сонца, і яго промні ў апошні раз сплылі серабром па яе валасах.

Я. Цялушэцкі

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## МІКАЛАЙ КОРХ



Працавітым і вопытным гаспадаром лічыцца селянін Мікалай Корх з вёскі Вітава Гайнаўскага павету. Вядзе ён трыццацігектаравую гаспадарку. Спецыялізуецца перш за ўсё ў свінагадоўлі. Штогод прадае дзяржаве 12–15 свіней.

Добра ўдаюцца ў яго збожжавыя культуры, пад якія дае дастатковую колькасць мінеральных угнаенняў. Жыта дастаўляе ён у дзяржаўныя засекі 10–12 цэнтнераў.

Мікалай Корх — вядомы грамадскі дзеяч. Аднавяскоўцы выбралі яго ва ўлады сельскагаспадарчага гуртка, воднай суполкі, пажарнай стражы, а таксама солтысам. Функцыю солтыса выконвае ён ужо восем гадоў. З'яўляецца пастаянным падпісчыкам „Нівы“ і „Грамады-Рольніка Польскага“.

Перадавы гаспадар Мікалай Корх тры гады таму назад быў узнагароджаны медалем „Заслужаны для Беласточчыны“.

Тэкст і фота Я. Цялушэцкага

З маёй званіцы

## „Хвароба на цябе“

Скуль узяўся свет, на свеце людзі? Скуль хваробы? Адвечныя пытанні.

Чаму б нам не паслухаць, што на гэту тэму баяў вядомы вясковы весяльчак, дзед мой Антон.

Спачатку, любенькія, не было зусімзусім нічога — адна бязмежная пустэча. Пасля ўжо толькі з паасобных хмараў, дыму, пылу і яшчэ чагосьці няведамага паўстала вялізная туманная блытаніна, якая пад уплывам гарачых сонечных праменняў ператварылася ў „ведзьмін кацёл“.

Усё гэта булькала, падрастала і пяклося, пакуль з касмічнай печкі не выкаціўся калабок, які мы сёння называем зямлёю.

Як кожная першая спроба, быў ён, зразумела, не вельмі ўданы. І таму, пэўна, і не было на яго ахвотнікаў. Каціўся ён вось так сабе, нікому непатрэбны, па бязмежжы.

Пад уплывам часу ў адным месцы яго выпучыла, у другім — у глыб уцягнула. Тут ён заплеснеў, там падсох, а яшчэ дзе падгніў нават. Вось так і ўзніклі горы, даліны, лясы, пустыні і балоты.

Раз, праўда, і на яго накіраваўся нейкі міжпланетны абжора. Зірнуўшы аднак на яго неапетытны выгляд, толькі сплюнуў і пагнаўся за цікавейшым аб'ектам.

Калі і скуль узяўся на зямлі першы чалавек — дагэтуль дакладна не выяснена. Найбольш прыхільнікаў мае тэорыя Дарвіна, паводле якой чалавек — гэта не што іншае, а проста дэгенераваная малпа.

Проста, ад р о ю (так калісьці называлі стада) малпаў, ад р о ю, у якім усё было супольнае, аддзяліўся найбольш сварлівы і ваяўнічы самец. Ён загарнуў заднімі лапамі горбу супольных яблыкаў, пярэднімі сціснуў цяжкую паліцу, доўга нешта мыкаў і ўрэшце зароў на ўсё наваколле: „Г-э-э-э-та ма-ё-ё-ё!“

Рой, як кожная арганізаваная грамадскасць, выкінуў, зразумела, шкодную адзінку, і так першы чалавек застаўся сам. Яго проста выгналі „з р о ю“.

Тады створ гэты, усё яшчэ валахаты, з доўгім хвастом, узяўшы паліцу ў зубы, рушыў неўзабаве на ўсіх чатырох, каб агледзець зямлю, якую з той пары пачаў лічыць сваёй уласнасцю.

Шукаючы, на чым бы тут выказаць сваю ўладу і сілу, ён выпадкова наткнуўся на нешта вялізарнае і чорнае. „Якім правам нейкае камянішча будзе мне тут завальваць дарогу?“ — падумаў ён і грымнуў па напатканай штуковіне паліцаю.

Гэта, аднак, не быў, даражэнькія, камень. Гэта быў, любенькія мае, мамант...

Патрывожанае звярышча, нядоўга думаючы, схапіла нашага пра-пра-прадзеда хобатам за хвост і стукнула ім з усёй сілы аб ствол папараці, якая ў тыя часы расла велічынёю з сённяшні дуб.

Ачнуўся наш нерастаропны продак, без хваста, з пераломанымі рэбрамі і моцным болем у паясніцы. Мусіць, у той апошняй і трэснула штосьці, бо з той пары ён пачаў хадзіць штыўна на дзвюх лапах.

Побач з няшчасным сядзела падобнае яму стварэнне, шчырыла зубы і безупынку нешта балбатала. Гэта і была першая жанчына.

Скуль яна ўзялася, выясніць таксама цяжка, як цяжка выясніць, скуль бяда на галаву бярэцца. Некаторыя яе паяўленне тлумачаць проста тым, што, як кажуць, няшчасці заўсёды парамі ходзяць.

Ва ўсякім выпадку, у першы ж дзень жанчына замучыла сваёю балбатнёю мужчыну да паўсмерці. Пад вечар, не пануючы ўжо над сабою, той урэшце зароў: „А змоўкні ж ты, хвароба на цябе!“ — і перацягнуў яе паліцаю па мяккім месцы.

О дзіва! Памагло.

Т-а-а-к. І хоць з той пары лякарстваў розных, што рыб у моры, людзі пазналі, то некаторыя далей вераць, што, у цяжэйшых асабліва выпадках, спосабы дзядоў-прадзедаў найлепей памагаюць.

Ларс



гача і Міколу. Таргі — у суботы, з часам замянілі на чацвяргі.

У 1881 годзе памерла больш людзей, чым нарадзілася іх. Шлюбаў адбылося 23...

А першай гадзіне ўночы 15 чэрвеня 1888 года пачаўся ў Крынках вялікі пажар: згарэла 156 дамоў і 58 іншых будынкаў — у іх ліку даўняя каменная сінагога, тры школы, мураваная бальніца і лазня. Пажар выбухнуў у цэнтры горада і найбольш бушаваў уздоўж вуліц Касцельнай, Свіслацкай (цяпер Гарбарская) і Царкоўнай. Страты — на 182 тыс. тагачасных рублёў. У канцы кастрычніка пагарэльцы цярпелі пятнаццацікградусны мароз, у лістападзе пацяплела.

Наступны страшэнны пажар перажылі Крынкі ў 1904 годзе. Другога ліпеня згарэла каля сямісот дамоў і будынкаў, гэта значыць, тры пятых усёй забудовы горада, шэсцьдзесят працэнтаў. У ваколіцы мела месца ў тым годзе аж дзесяць вялікіх пажараў. Людзі не спалі начамі, баяліся. Лета было надта сухое, але з добрымі ўраджаямі. Адной з прычын пашыраных пажараў з'яўлялася, несумненна, густая забудова. Чатыры гады назад, 29 мая а 3-яй гадзіне пасля абеду, ля Гродзенскай вуліцы згарэла шэсць свірнаў з прыбудоўкамі. Якраз свірнаў!

У той час памірала надта многа людзей, асабліва дзяцей і жанчын. Могілкі аказаліся замалымі, і гаспадары першай Крынскай сельскай грамады Іван Башынскі, Васіль Курчук, Адам Шамрухевіч, Ёзік Шамрухевіч, Міхась Дамброўскі, Антон Яновіч, Сцяпан Яновіч і Павел Клімовіч дня 31 мая 1902 года прадалі пад праваслаўныя могілкі 1.539 сажняў зямлі. Акт продажу адбыўся ў прысутнасці старшыні воласці Дзядэля.

Ад 1905 года летапісец абмежаваўся ўжо толькі царкоўнымі здарэннямі. Аднак пачатак Крынскай рэспублікі яшчэ апісаў. 17 студзеня 1905 года фабрычны люд разагнаўураднікаў, валаснос праўленне, паліцыю, паштовую станцыю. У гэтых падзеях праявілі актыўнасць некаторыя і з сялян, якія працавалі час ад часу ў фабрыках. У рабочым квартале Пагулянка спявалі рускія рэвалюцыйныя песні.

Крынкі з'явіліся першым прамысловым цэнтрам у Расійскай імперыі, у якім уладу захапілі рабочыя.

Сакрат Яновіч




Дарагое „Сэрцайка“!

Мне 22 гады. Жыву я на вёсцы, а штодзень даязджаю да працы ў горад. Два гады таму назад пакахаў я Галю, малодшую за мяне на тры гады. Кожную свабодную хвіліну мы праводзілі разам. Калі ўспомніў я ёй, што пара б нам жаніцца, яе радасці не было канца. Абое былі мы шчаслівыя, пакуль я працаваў на месцы і штодзень бываў дома. Але вось паўгода таму назад я быў накіраваны на работу ў далейшы горад. З Галяй бачыўся рэдка. Тады і пазнаёміўся я з Эляй. Ёй толькі 17 год, яна яшчэ вучыцца ў сярэдняй школе. Спадабалася Эля мне, і Галю я пачаў забываць. Не спешна ўжо цяпер мне да яе. Эля мяне пакахала і сама ўжо сказала, што хацела б стаць маёй жонкай. Я стараўся тады тэму змяніць, бо ж з Галяй абяцаў жаніцца. Яна аднак цвёрда на сваім стаяла, ды пытала, ці пачакаю, пакуль ёй 18 год споўніцца. Бацькі яе таксама задаволены, спадабаўся я ім. Гавораць, што ўсё ад мяне залежыць. Я ўжо хутка ізноў вярнуся на сталае месца працы і тады буду далёка ад Элі. „Сэрцайка“, што рабіць? Ці жаніцца мне з Галяй, ці чакаць Элю?

**Віктар з Дуброўшчыны**

**Віктар!** Зарана яшчэ аб жаніцьбе гаварыць. Ты яшчэ і малады, але не гэта найважнейшае. Галоўнае, што не скрышталізаваныя яшчэ твае пачуцці, ты хістаешся, не ведаеш, якую дзяўчыну выбраць. Кахаў жа ты Галю, пакуль на месцы быў. Як толькі ад'ехаў, ужо ў іншую закахаўся. Вось таму і не спяшайся жаніцца, пакуль не ўпэўнішся, што толькі гэта і ніякая іншая дзяўчына табе падабаецца і толькі яе кахаеш.

**„Сэрцайка“**




ЯК ЦЯБЕ БАЧАЦЬ, ТАК ЦЯБЕ ПІШУЦЬ

# ЖАКЕТЫ

У апошні час вельмі моднымі сталі жакеты. Уласна кажучы, з'яўляюцца яны падставай кожнага ўбору на халодныя дні лета і на першыя дні восені. Жакет носяць як са шта-



намі, так і са спадніцамі. Можна яго насіць на сукенку. Жакет жыве, так сказаць, самастойным жыццём, і з'яўляецца абсалютна незалежнай часткай вопраткі.

Тканіны на жакеты можна купляць розныя: у палоску, у клетку, у гарошкі і ў розныя іншыя ўзоры. Калі камусьці надакучылі жакеты ва ўзоры, то можна зрабіць жакет з гладкай, аднастайнай тканіны. Апранаем яго тады са спаднічкай ці штанамі ў палоску, клетку ці ў іншыя ўзоры.

З гладкіх тканін раім выбраць колер жоўты (цёплы, сонечны), цёмнасіні, белы, чырвоны, карычневы, бежавы з ружовым адценнем. Вельмі прыгожа выглядае жакет з аксаміту. Цікавыя таксама жакеты з палатна.

У асноўным жакеты шыюць з шырокімі бартамі (кляпамі). Чым шырэйшая фігура, тым кляпы трэба рабіць вузейшыя і даўжэйшыя.

**Сяброўка**









МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

## Змяіны востраў

Рыбакі малазійскага штата Сабах ніколі не падплываюць да вострава Убан-Убан у Паўднёва-Кітайскім моры. Гэта высунутая з вады невысокая скала, усыпаная валунамі і пакрытая рэдкім хмызняком, збоку выглядае даволі мірна і прыветліва. Але паспрабуйце высадзіцца на востраў і вы адразу ж пераканаецеся, што на ім нельга зрабіць і кроку, каб не наступіць на... змяю. Колькі іх тут, ніхто не ведае. Яны ўсюды — грэюцца на каменнях, вісяць на галінках клубкамі, кішаць у цёмных шчылінах. Гэта марскія змеі з расшыраным і плоскім, як у рыбы, хвастом, даўжынёй каля аднаго метра, з падоўжнымі белымі палоскамі. Яны ядавітыя, харчуюцца дробнай рыбай, але часам нападаюць і на даволі буйных марскіх жывёлін.




# ПАРТЫЗАНЫ АДНАГО СЯЛА

(Працяг з папярэдняга нумара)

### У РОДНЫХ АСЕЛІЦАХ

Зрок наведвальнікаў Музея рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы прыцягвае невялічкі дакумент, напісаны фіялетавым чарнілам на кавалачку сшыткавай паперы:

Штаб партызанскай брыгады
„У імя Айчыны“
28 ліпеня 1944 года
Нр. 2
Даведка

Гэтым сцвярджаецца, што Засім Канстанцін Сцяпанавіч быў партызанскім сувязным груп, што дзейнічалі ў раёне Белавежскай пушчы, ад жніўня 1942 года да 26 красавіка 1944 года; ад 26 красавіка 1944 года да 28 ліпеня 1944 года знаходзіўся ў партызанскім атрадзе імя Кутузава брыгады „У імя Айчыны“ як памочнік начальніка аддзела разведкі. У часе службы праявіў сябе патрыётам Радзімы, дапамог у авалоданні раёнам, дзе дзейнічаў атрад. За выдатную службу ў атрадзе быў два разы прадстаўлены да дзяржаўнай узнагароды. Камандаванне брыгады рэкамендуе яго ў склад мясцовых органаў улады. Даведка выдадзена для прадстаўлення сакратару Свіслацкага раённага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі.

Камандзір брыгады
/—/ Мартынаў
Камісар брыгады
/—/ Чуркін
Начальнік штаба
/—/ Клімчэня

І вось пошукі прывялі мяне ў новенькі ўтульны домік у вёсцы Семяноўка. Хоць Канстанціну Засіму ўжо споўнілася 68 гадоў, ён выглядае маладжава. Жыве пры сыне на гаспадарцы, але ў асобным доміку, каб, як сам кажа, не перашкаджаць маладым.

— Калі ў канцы чэрвеня 1941 года лінія фронту перасунулася на ўсход, у ваколіцах Белавежскай пушчы пачалі збірацца савецкія салдаты і афіцэры, што апынуліся ў тыле ворага, — прыгадвае К. Засім. — Да іх далучаліся мясцовыя актывісты, члены партыі і камсамольцы, і ўжо пад восень 1941 года пачалі тут фарміравацца партызанскія атрады. Адзін з іх абсталяваўся ў трынаццатым квартале пушчы. Што ж, людзі ў ім былі нетутэйшыя, лесу не ведалі. Быў сярод іх Косця Кіслік з Меляшкоў, што ў Беластоцкім павеце. Мы з ім былі знаёмы яшчэ да вайны. Наведаўся ён аднойчы ка мне ноччу і папрасіў, каб пазнаёміць яго з пушчай. І так яно пачалося. Пасабляў я ім і харчамі і зброяй. Але ляснічыя, што былі на службе ў гітлераўцаў, трапілі на след атрада. Прывалііла аблава. Было ўжо прадвесне 1942 года. Якраз ранкам я ўпраўляўся на панадворку каля жывіны і чую: затарахцела перастрэлка недзе ў баку трынаццатага квартала. Сэрца ў мяне сціснулася: „Гэта ж там, дзе партызаны...“ Увесь ранак я не мог сабе знайсці месца і пабег да свайго сябра Хведара Галкі, што таксама трымаў сувязь з атрадам. „Бяда, — кажу, — гэта ж па нашых, пэўна, так жараць“. Хацелі мы адразу на месца бою падацца, але разважылі, што партызанам тут ужо мы нічога не паможам, а самі немцам у лапы трапім. Пасля поўдня стрэляніна суцішылася, і мы заўважылі, што нямецкая аблава падалася з лесу. Пачакаўшы якую гадзінку, паімчаліся мы пералескамі ды карчамі да партызанскай стаянкі. Нідзе нікога, толькі пустыя гільзы ад патронаў валяюцца ды маладняк кулямі пасечаны. Сталі мы разглядацца: пагаслае вогнішча, а непадалёк — кацялок з ежай, хлеб, лыжкі. Значыць: зранку, у час снедання гітлераўцы напалі. Глядзім далей — ляжыць нежывы чалавек. Мы да яго — наш, партызан Сашка. Няйначай на стражы стаяў, калі сябры снедаць збіраліся. Пэўна, не здолеў адступіць і ў апошнюю хвіліну стрэліў з пісталета сабе ў твар — не хацеў трапіць у рукі ворага. Прыхавалі мы дзе што-якое, што засталося ад партызанскай стаянкі ў лесе, а самі падаліся ў вёску і, ўзяўшы лапаты, вярнуліся і пахавалі Сашку. Магілкі не сыпалі, усё зраўнялі ды мохам услалі, адно сабе знак на дрэве засеклі, каб пасля вайны, хто будзе жыў, тут помнік паставіць. Я падаўся дахаты, а Галка яшчэ ў лесе крыху замарудзіў. І ўжо вяртаючыся дадому, наткнуўся ён на нейката незнаёмага чалавека. Той быццам бы падаўся за партызана, што адбіўся ад свайго атрада. Слова за словам, і Галка расказаў па шчырасці, што ён з Семяноўкі, ведаў крыху партызанаў, а пасля бою прыйшоў пахаваць загінуўшага. Незнаёмы накіраваўся ў пушчу, а Галку праз пару дзён забралі жандары ў белавежскую катоўню. Галка не вытрымаў пабояў і расказаў пра ўсё і пра ўсіх, хто меў якое-колечы дачыненне з партызанамі. Відаць, расказаў і пра мяне.



*Былыя партызаны з Семяноўкі. Злева: Канстанцін Засім, Павел Ігнацюк і Аляксандр Панькоўскі.*

*Фота М. Гайдука*

**Запісаў Мікалай Гайдук**

*(Працяг у наступным нумары)*

# Мая робаціха

Я стварыў робаціху. Запраграміраваў яе адпаведным чынам, і пачала робаціха мне служыць: будзіла, падавала шлёпанцы. Пакуль умываўся, на стале ўжо чакаў сняданак.

Робаціха купляла, насіла з магазіна і рынку прадукты. Гатавала, мыла, прасавала, прыбірала кватэру; выбівала з дываноў пыл, цягала ў пральню бялізну. Я пасылаў яе ў горад па свежае піва або модныя шкарпэткі. І яна, аббегаўшы магазіны, усё даставала і прыносіла.

Калі, прыйшоўшы са службы, я плюхаўся на канапу, робаціха падавала мне газету і часопісы. А пакуль іх чытаў і драмаў, яна, каб не разбудзіць мяне, хадзіла на дыбачках.

Аднойчы, ідучы на работу, я загадаў ёй купіць тры мяхі бульбы і мех капусты.

Вярнуўся дамоў і — о, жах! Пад мехам бульбы, які робаціха ўзвалакла на сабе на пяты паверх, ляжала куча халоднага металу. Не вытрымала робаціха нагрузкі, перагарэла рэле і ўсё астатняе. Агледзеў я былую верную памочніцу і ўпэўніўся, што аднаўленню яна не падлягае. Згроб у мяшок усё тое, што называлася робаціхай, і аддаў школьнікам на металалом.

Новую робаціху ствараць не стаў. Вельмі нудны і глумны занятак.

Я ажаніўся на сваёй супрацоўніцы...

**Васіль Хомчанка**

### У БАЛЬНІЦЫ

— Сястра, спытайце пацярпеўшага, як яго прозвішча, каб мы маглі паведаміць аб ім яго бацькам.

— Доктар, ён гаворыць, што яго бацькі дасканала ведаюць, як яго прозвішча.



*Клетка для дысцыплінаванай птушкі.*






## БАРЫСАВА ХВАРОБА

У клініку з матчыным горам
Жанчына прыйшла да ўрачоў:
— Рэч дзіўная сталася з Борам,
Хваробу хлапчына знайшоў.
Накінуцца раптам прыпадкі
І рады няма, хоць ты плач.
— Расказвайце ўсё па парадку, —
Уважліва просіць урач.
— Ці ў нервах той трасцы прычына,
Ці можа схапіла жывот?
— Ды не, — уздыхнула жанчына, —
Ад нерваў не меў ён турбот.
Ва ўсім дагаджала Барысу,
Каб не ўсхваляваць незнарок.
Казала: — За груз не бярыся,
А то надарвешся, сынок.
І праўда, хоць хлопец плячысты,
Цяжар не любіў падымаць.
Яму я купіла транзістар,
Бо лёгка насіць і іграць.
Страшэнныя гукі прымае —
І ў танцы дрыжыць не на жарт.
Сумбурная музыка тая,
Здаецца, завецца поп-арт...
Урач адказаў: — Дарагая,
У працы — здаровы спакой.
Хай грузы Барыс пацягае —
Хваробу як зніме рукой.

**Генадзь Зотаў**

### СПОСАБ

Швейцар інстытута прыгажосці праславіўся сярод сваіх калег вялікімі чаявымі.

— Як жа табе гэта ўдаецца? — спытаў у яго сябра.

— Вельмі проста. Калі кліенткі прыходзяць, я сустракаю іх словамі „Калі ласка, мадам!", а калі выходзяць, я ім гавару „Да пабачэння, мадмуазель!"

### НЕ МОЖА БЫЦЬ

Ідзе дарогай п'яны і пытае праходжага:

— Скаж-жыце, калі ласка, д-дзе тут рэс-старан?

— Вы ўжо мінулі, — адказвае той.

— Э, не, браток, гэтага не можа быць, як міну рэс-старан, дык далей ужо ракам лезу.

ГУМАР З

— Ёш, Якаў.
— Дзякуй, дзякуй.
— Дык чаму ж не ясі?
— А чаму ж лыжкі не дасі?



Ён казаў: адна дурная звіліна псуе ўсю галаву.
Ён казаў: голад добра выпраўляе заганы стравы.

### ВЯЛІЗНАЯ РЫБІНА

Рыбак расказвае суседу:

— Вялізную рыбіну злавіў учора. Валаку дахаты, а хвост ажно па зямлі цягнецца. І жывучая аказалася: кінуў на патэльню, а яна трапечацца.

### СУКЕНКА

Адна сяброўка другой:

— Ах, якая цудоўная сукенка! На яе практычна зусім не трэба матэрыі.

### ПРЫМАНКА

— Гэта праўда, Іван, што ты „Фіята" выйграў?

— Ды гэта я такую чутку пусціў, каб жонка ад цёшчы дамоў вярнулася, бо ўжо цэлы месяц гатаванага не еў.

*ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!*



*— Вам — віншаванні балельшчыкаў.*

### ЗУСІМ ЗАКОННА

— Кажуць, вы ўчора парушылі правілы вулічнага руху, зігзагамі ішлі дамоў і некалькі разоў падалі?

— Паклёп! Я ішоў зусім законна...

— Як жа законна?

— А так, што падпарадкоўваўся... закону зямнога прыцяжэння!

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Крыстыны Шырынскай і Ірэны Мароз з Койлаў змяшчаем песню

## TYLE SŁOŃCA W CAŁYM MIEŚCIE

Słowa: Janusz Kondratowicz
Muzyka: Jarosław Kukulski

Dzień, wspomnienie lata,
dzień, słoneczne ćmy,
nagle w tłumie w samym środku miasta
ty, po prostu ty.

Dzień, godzina zwierzeń,
dzień, przy twarzy twarz,
szuka pamięć poplątanych ścieżek
lecz — czy znajdzie nas.

Tyle słońca w całym mieście,
nie widziałeś tego jeszcze,
popatrz,
popatrz.
Szerokimi ulicami
niosą szczęście zakochani,
popatrz,
popatrz.
Wiatr porywa ich spojrzenia,
biegnie światłem w smugę cienia,
popatrz,
popatrz.
Łączy serca, wiąże dłonie,
może nam zawróci w głowie
też.

Dzień, powrotna podróż,
dzień, podanie rąk,
ale niebo, całe jeszcze w ogniu,
chce zatrzymać wzrok.

Tyle słońca w całym mieście...





### ПОЎНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Багаты амерыканец даручае прыватнаму дэтэктыву сабраць інфармацыю пра свайго будучага зяця — містэра К. Праз некаторы час дэтэктыў прыносіць яму наступнае: „Містэр К. зарабляе 500 долараў у месяц. Не мае судзімасці. Паводзіны добрыя. П'е ў меру. У бліжэйшы час збіраецца жаніцца. На жаль, яго будучы цесць мае дрэнную рэпутацыю".

### УСПАМІН

Муж і жонка ўспамінаюць мінулае.

— Ах, дарагі, ці памятаеш ты, як мы пазнаёміліся? Тады яшчэ здарылася паводка...

— Так дарагая, гэта было вялікае няшчасце.

### ЧАМУ ЁН ДЗЯЦЕЛ?

Выхавацельніца паказвае дзецям на малюнку дзятла, расказвае пра яго.

Чатырохгадовы Ігар пытае:

— А чаму ён дзяцел: а не даўбацел?

*З УКРАІНЫ*




*— Ясна, у яго ангіна.*

### ЗАЯВА

На вуліцы не спяшаючыся ішоў паштальён. Ён разносіў пісьмы, карэспандэнцыю.

— Ого, столькі друкаванага слова ў адзін дзень?! — здзівіўся Іван Васільевіч, прымаючы ад яго цэлае бярэмя газет і часопісаў.

— Не падабецца — пішы заяву, што адмаўляешся ад пошты, — даўно завучанае выгукнуў паштальён у суседні двор.

— Вы б хоць праз дзень насілі, калі кожны дзень не атрымоўваецца, — нясмела прамовіла суседка Аўгіння.

— Не падабецца — пішы заяву... — пачулася ў адказ.

— Чаму гэта газеты аднаго нумара ажно тры экземпляры, а другой — ніводнага? — спытаў паважліва Пятро Анікін.

— Не падабецца... — данеслася ўжо даўно знаёмая фраза.

Жыхары вёскі, нарэшце, паслухаліся паштальёна і напісалі заяву... аб недобрасумленных адносінах яго да сваіх абавязкаў.

Выклікаў начальнік паштальёна і катэгарычна сказаў:

— Не падабецца працаваць — пішы заяву аб звальненні...

**Надзея Кудравец**




### АБ ГУСТАХ НЕ СПРАЧАЮЦЦА

У аўстралійскім горадзе Барыбене адбыўся конкурс повараў на лепшае прыгатаванне страў. Першую прэмію атрымаў Джон Кокарэн. Пасля закрыцця конкурсу суддзі і дэгустатары пацікавіліся ў пераможцы, дзе ён працуе і па якіх рэцэптах гатаваў стравы. Джон з гонарам паведаміў, што працуе на мясцовай фабрыцы па вытворчасці... кармоў для свіней. Рэцэпты ён выкарыстоўваў таксама з практыкі свайго прадпрыемства.

### АПАРТЭІД!

На адной з ажыўленых вуліц Іаганесбурга (ПАР) аўтамашына збіла 18-гадовага белага юнака. Сведкі гэтага здарэння па тэлефоне выклікалі „хуткую дапамогу". На станцыі адбылася памылка, і да месца катастрофы прыбыла машына, прызначаная для „неўрапейцаў". Паліцэйскі, які прысутнічаў пры гэтым, катэгарычна забараніў адпраўляць пацярпеўшага ў бальніцу. Ён заявіў: „Гэта супярэчыць закону. Ён павінен быць эвакуіраваны на транспарце, прызначаным для белых".

Калі прыбыла другая машына, ужо было позна: юнак памёр ад унутранага кровазліцця.

### СТАЛІЦА ЗЛАЧЫННАСЦІ

Падазроную славу „амерыканскай сталіцы злачыннасці" заваяваў у прэсе ЗША Дэтройт. Часопіс „Ньюсуік" піша, што ў 1973 годзе на гэты горад „нахлынула хваля забойстваў, якая не мае прэцэдэнтаў", — 693. Аднак рэкорд, на думку паліцэйскіх экспертаў, будзе сёлета перавышаны. Яны „плануюць" лічбу 750, што азначае не менш чым адно забойства на 1.800 жыхароў Дэтройта.




**Выйдзе чалавек у людзі і яго ўжо не ўбачыш сярод народу.**